№ 38. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два рàзы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 38 (130). Год II. Вільня, 11 мая 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## „Шыбкі канец вайны“.

### 10 мая.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Пры Аррас артылерыйская бітва крапчэе. Нашы акопы на заходзі ад Ленс і Авіон былі дарэмнай мэтай опэрацій ворагоў. Фрэнуа асталося цэлае ў нашых руках. За ўладаньне Бількур бушуе бітва, перасоўваючыся ўзад і ўпярод.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Між Суассон і Рэймс артылерыйская работа ізноў крапчэла. Пры Зімовай гарэ і ля хутара С.-Марі новые францускіе штурмы адбіты ў вострай бітве штыкамі і контратакай. На паўночным заходзі ад Пронн мейсцовые наступленьня ворагоў нічога не дайшлі.

---

У бітвах на паветры і стрэламі з зямлі збіты 9 самалётаў ворагоў.

**Усходні тэатр:**

Пры Нараёўцы, ля чыгункі Тарнополь — Злочов і Бэрэжан момэнтамі крапчэла артылерыйская і мінамётная бітва.

На македонскім фронці ўчора трывала незвычайна вострая бітва, каторая сваей сілай перавысіла ўсе даўнейшые бітвы на гэтым фронці.

---

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у Атлянтыцкім акіяні: 4 параходы і 4 парусные караблі разам 22,500 тонн. У тым ліку былі: аружны англіцкі параход с таварамі, ішоўшый у Аўстралію; аружны англіцкі параход з маслам для Англіі; невядомы аружны параход са збожжэм для Англіі; невядомы параход, здаецца, са снарадамі.

МЮНХЭН (В.Т.Б.) 9.V. «Bayrisch Staatszeitung» («Баварская Дзержаўная Газэта») друкуе аб заседаньні камітэту саюзнай рады да заграцічных спраў гэткае поўурадовае апавешчэньне:

„Камітэт саюзнай рады да заграцічных спраў заседаў учора і сягоньня пад маршалкоўствам баварскаго гасударственаго міністра, гр. ф. Гэртлінга, як бывае звычайна, у гасударственаго канцлера. У гутарках абменіваліся думкамі; пры гэтым прамова канцлера аб агульным палажэньні і палітычных мэтах, у якой было высказано поўнае пераконаньне аб шыбкім і шчасьлівым канцы вайны, была пацьверджэна ў вадзін голас усемі быўшымі тут міністрамі паадзінокіх урадоў“.

БЭРН. (В.Т.Б.). «Petit Parisien» даносіць с Пецярбурга:

Спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. прэдлажыў ураду забараніць організацію украінскіх, латышскіх і ліфляндзкіх палкоў.

«Temps» даносіць с Пецярбурга, што тэлефоністкі пастанавілі сваей ахвотай не злучаць болей тэлефонаў асоб, каторые хочуць гаварыць з рэдакціей крайняй радыкальнай газэты «Правда» і з Леніным.

ПЕЦЯРБУРГ. (В.Т.Б. і П.Т.А.). Керэнскій паслаў пісьмы спаўніцельнай камісіі думы, радзі работнікоў і салдатоў і соцыалістычным партыям у Пецярбурзі, кажучы ў іх, каб прэдстаўнікі дэмократоў паводлуг выбару і на моцы спэцыальных пазваленьнёў організацій, да якіх яны належаць, узялі на сябе часць ціжароў упраўленьня.

БЭРН. (В.Т.Б.). У даволі вялікай стацьці ў «Daily Telegr.» пецярбурскі карэспандэнт газэты адзначывае, што доля Расеі знаходзіцца ў руках рады раб. і салд., вытворэнай рэвалюціей зусім прыпадкова. Ей прыслухаюць пецярбурскіе рамесьнікі і салдаты, і яна ў кожны момэнт можэ затрымаць урадовую машыну. З гэтай прычыны тымчасовы урад прымушэн падчыняцца яго зусім дыктатарскім радам. Гэтым тлумачацца шмат якіе крокі, каторых іначэй нельга было-бы зразумець. На вялікі жаль, рада раб. і салд. і тымчасовы урад заседаюць у зусім не расейскім Пецярбурзі, ў якім пражывае значны працэнт фінляндцоў і многа тысяч асоб нямецкаго паходжэньня, між каторымі шмат тайных здрайцоў.

БЭРЛІН. З некаторым недавер'ем газэты прыносяць вестку с Копэнгагі, што англіцкі і францускі паслы пакінулі Пецярбург, але выезд абодвых паслоў укрываюць, бо баяцца, што апавешчаньне гэтаго факту лішне сільна адаб'ецца на настраеньні народу.

У № 77 «Русск. Сл.» с 4 мая пішуць, што б. міністэр заграцічных спраў, Сазонов, адзін з найвялікшых староннікоў вайны, у начы на 4 мая налажыў на сябе рукі, прыняўшы стрыхніну. У пакінутым пісьме ён свой пастунак называе пратэстам проці аддзяленьня яго ад ягоных прыяцелёў, каторых ён са сваім сынам, як сам кажэ, „хацеў выратаваць“.

---

*Вільня, 11 мая 1917 г.*

Пад той час, як тымчасовае расейскае правіцельство у сваей заграцічнай палітыцэ гатова было ступіць на тую дарогу, па якой ішла старая самадзержаўная палітыка, — пад той час, як Мілюков, здабыўшый урэшці даўно жаданае мейсцо міністра заграцічных спраў, ужо бачыў напярод заваеваньне Константынополя і Галіцкай Украіны, — рада работнікоў і салдатоў, як прэдстаўніца рабочаго народу, рабіла энэргічные крокі, каб знішчыць да званьня палітычную спадчыну царскаго правіцельства і дайсьці міра, зрокшыся ўсіх апэтытоў на чужые землі. Ад самаго пачатку перэвароту ў Расеі ішло змаганьне між тымчасовым урадам і радай работнікоў і салдатоў на грунці варункоў міра, і ў гэтым змаганьні рабочые массы крок за крокам здабывалі перэвагу. Першая пабеда іх — гэта вядомая дэклярація тымчасоваго ураду з 9 красавіка, што Расея ў гэтай вайне не дабіваецца ніякіх захватоў чужых зямель. Тэлеграф прынёс нам цяпер вестку аб новай пабедзі работнікоў: гэта — тлумачэньне значэньня ноты міністра заграцічных спраў, Мілюкова, ў якой той выясьняў саюзьнікам Расеі, як яны павінны разумець дэклярацію.

У новай заяві гаворыцца:

1. Тая нота доўга і ўсестаронна разгледжэна тымчасовым урадам і прынята ўсемі галасамі.

2. Ясна, што нота гэная мела на мэці развязаць пытаньне, закранутае ў дэкляраціі з 9 красавіка ў гэткіх словах: «Урад лічыць за сваё права і сваю павіннасць заявіць ужо цяпер, што вольная Расея не мае на мэці запанаваць над другімі народамі, або захапіць іх стан ўладаньня, ці заўладаць чужымі землямі; мэты яе кіруюцца да забаспечэньня трывалаго міра на аснові свабоднаго развіцьця народаў. Расейскі народ ня хочэ узмацовываць сваей замяжовай моцы коштам іншых народаў і не мае на мэці нікога пакарыць ані паніжыць. У імя пачэсных прынцыпоў справядлівасьці расейскі народ парваў путы, каторые яго звязывалі, але ніколі ня згодзіцца і на тое, каб яго бацькаўшчына выйшла з вайны паніжэная або з нарушэньнем канечне патрэбных да жыцьця сіл яе“.

3. Пад славамі «умацаваньне забаспечэньня трывалаго міра» тымчасовы урад разумеў аграцічэньне азброеньня, міжнародные суды і т. п.

Заява гэта была аддадзена паслам саюзных дзержаў праз міністэрство заграцічных спраў.

С прычыны гэтай заявы рада работнікоў і салдатоў апавешчае:

„Аднадушны пратэст работнікоў і салдатоў у Пецярбурзі паказаў тымчасоваму ураду і ўсім народам сьвету, што рэволюцыйная дэмократія Расеі ніколі ня згодзіцца, каб заграцічная палітыка ішла па дарозі царызму, і што жаданьне яе як было, так і ёсць неустанна змагацца за сусьветны мір. Новае выясьненьне тымчасоваго ураду, вызванае пратэстам і пададзенае да агульнаго ведама, а праз міністра заграцічных спраў такжэ і да ведама прэдстаўнікоў саюзных дзержаў, кладзе канец усім тлумачэньням ноты, нязгодлівым з інтэрэсамі і дамаганьнямі рэволюцыйнай дэмократіі. Факт, што зроблен першы крок у кірунку міжнароднаго разгляду справы аб адрачэньні ад палітыкі захватоў, трэба ўважаць за вялікую пабеду дэмократіі. Рада работнікоў і салдатоў апавешчае сваю цьвёрдую пастанову ў будучыне ісьці па дарозі змаганьня за мір і прызывае ўсю рэволюцыйную дэмократію Расеі цясьней гуртавацца навакол рады. Прэдстаўнікі работнікоў і салдатоў зломяць апор правіцельства і прымусяць яго пачаць перэгаворы аб міры на аснові адрачэньня ад аннэксій і сплат“.

Гэтые апошніе словы паказваюць, што рада работнікоў і салдатоў зусім адкрыта ступіла на дарогу змаганьня с тымчасовым урадам за мір. І мы можэм ешчэ раз сказаць тое, што гаварылі раней: што толькі поўная пабеда працоўнаго народу ў Расеі над буржуазіей і апанаваным ею правіцельствам прывядзе да цьвёрдаго і на доўгіе часы міра на аснові волі народаў.

Ніхай жэ гэта наступіць чым хутчэй!

---

## На розных дарогах.

«Dziennik Kijowski» апісывае вельмі цікавы момэнт у жыцьці сталічнаго места Украіны, Кіева. Гэта — нацыональная маніфэстація украінцоў за незалежнасць. У вялізарным паходзі ад сабора сьв. Валадзімера, ў нацыональных опратках, з музыкай, з учасьцем войск, ваенных школ, організацій, сярэдніх школ і селян, плылі праз вуліцы Кіева нялічэные грамады народу за чырвоным запарожскім штандарам з белым крыжом над паўмесяцам наперадзі і чысьленымі штандарамі з надпісамі аб волі, згодзі і брацтве народаў.

З балькону ратуша паход віталі цывільные і ваенные ўласьці,

Што перэвярнуўшы «мэ» ўселякі [скажэ.
Залатое «меры» склад другі са [трэцім
Усіх нас навучае, як лёгка замецім.
Трэцьцяе загадкі часьці (то ёсць [«рыка»)
Непрыятна пачуць, хіба так ад быка.
Адвярнуўшы «рыка» маем слова [«кары».
Памятайце-ж добра, паны ды баяры!
Першы склад са трэцьцім твораць [слаўцо «ары»;
Не знаю, што гэта, — немагчыма [«нары»,
Дый магло-бы быці якое «арыка»
Заместа «арэха» з мужыцка пазыка.
«Амэрыка» будзе цэлая шарадэ —
Ня едзьце туды, вось мая добра радэ.
*А.*

Хаця тлумачэньне — даволі сьціпнае, але абмылковае. Слова павінно складацца толькі с трох складоў і будзе: «ка-мэ-та».



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.